# Веснік НДА
# Vesnik NGO

№10 (25)

кастрычнік 2000

L. SAPIEHA

БЮЛЕТЭНЬ ВІЦЕБСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГА «ФОНД ІМЯ ЛЬВА САПЕГІ»


### Марш Свабоды-3

## БАЙКОТ 2000




**8 кастрычніка у 12 гадзін на Ратушнай плошчы у Віцебску сабралася каля 400 чалавек на Марш Свабоды-3. У 12.30 дэманстранты рушылі да месца правядзеньня мітынгу на плошчу Леніна. Маршрут руху быў традыцыйна зьменены гарвыканкамам : замест цэнтральнай вуліцы Леніна прапанавалі паралельную вуліцу Узгорскую (акупацыйная назва – вул. Суворава). Зьмена маршруту была ўспрынятая удзельнікамі Маршу як зьдзек над правамі на свабоду сходаў і дэманстрацый.**

**На мітынгу каля абласной філармоніі колькасьць удзельнікаў павялічылася. Разам зь мяйсцовымі прамоўцамі слова бралі госьці Марша – Людміла Гразнова, Аляксей Кароль, Павел Севярынец, Валер Шчукін. Падчас выступу Л.Гразновай нейкі грамадзянін сталага ўзросту падыйшоў да мікрафона з надкусанай буханкай дзьвінскага хлеба – ці то хацеў прамоўцу пачаставаць ці то дэманстраваў што няма чаго есьці.**

**Пасьля афіцыйнага заканчэньня Марша Свабоды–3 у Віцебску у 14.20 на плошчы Леніна былі затрыманыя народнафронтаўцы новай хвалі Аляксандр Прахарэнка, Сяргей Гродзь, Марат Волкаў, Сяргей Сьмірноў, Андрэй Саўчанка, Сяргей Доўгі, Сяргей Васенка. Маніфестантам была інкрымінавана арганізацыя несанкцыянаванага пікету і распаўсюджваньне друкаванага выданьня, якое утрымлівае заклікі да байкоту маючых адбыцца 15 кастрычніка выбараў у так званую палату прадстаўнікоў.**

**Затрыманых каля 1 гадзіны пратрымалі у Кастрычніцкім РАУС, дзе склалі пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэньні. Позвы у суд павінны прыйсьці абвінавачаным на хатнія адрасы**

## З Наваполацка

9 верасьня адбыўся семінар для грамадскіх назіральнікаў, што мяркуюць узяць удзел у назіраньні за выбарамі 15 кастрычніка. Уладная вертыкаль спрабавала не дапусьціць правядзеньня гэтага мерапрыемства. Ва ўсіх установах, куды зьвярталіся прадстаўнікі Наваполацкай Каардынацыйнай Рады па назіраньню за выбарамі, ім давалі адмовы на арэнду памяшканя для семінару. Натуральна, што выразна патлумачыць гэтыя адмовы яны не маглі, але давалі зразумець, што на гэты раз патрэбен дазвол выканкаму. Без такога дазволу дзяржаўныя чыноўнікі самі не маглі даць у арэнду памяшканьне для прадстаўнікоў Каардынацыйнай Рады па назіраньню за выбарамі.

Што ж так занепакоіла нашу вертыкаль? Чаму яны так баяцца грамадзкіх назіральнікаў? Тым больш гэтая працэдура прадугледжана выбарчым кодэксам, адобраным на самой вяршыні вертыкалі. Але выконваць законы, нават палатныя, не ў традыцыях савецкай наменклатуры. Законы пісаліся толькі на паперы, а ў рэчаіснасіць дзейнічалі іншыя прынцыпы.

Вось і зараз наменклатуры дадзены загад зьверху – правесьці выбары любым коштам. Ну а грамадзкія назіральнікі могуць вельмі гэтаму пашкодзіць. Наўрацьці хто сумняваецца, што актыўнасьць выбаршчыкаў у палатныя выбары будзе недзе на мяжы кворуму. Вось тут і трэба будзе выбарчым камісіям праявіць вынаходлівасьць для "выцягваньня" кворуму. Натуральна, што назіральнікі будуць замінаць "вырабляць" выбары. Тым больш, калі яны пройдуць адпаведнае навучаньне па веданьню заканадаўства. Між іншым, практыка мінулых гадоў паказала, што законы аб выбарах назіральнікі ведаюць значна лепш, чым сябры выбарчых камісіяў.

На пярэдадні семінару са старшынём Наваполацкага выканкаму таварышам Камаровым меў дзьве тэлефонныя размовы сябра Віцебскай абласной Каардынацыйнай Рады па назіраньню за выбарамі спадар Навумчык. Наваполацкі шэф вертыкалі першы раз паабяцаў паспрыяць у прадстаўленьні памяшканьня, а на другі раз проста пачаў прасіць спадара Навумчыка не праводзіць гэты семінар, спаслаўшыся на тое, што ў яго і так складанае становішча. Але ж таварыш Камароў сам абраў гэтае месца працы і паставіў сябе ў гэтае становішча.

Але ніякія захады вертыкалі не змаглі перашкодзіць правядзеньню семінара. Ён адбыўся ў прызначаны час. Назіральнікі змаглі атрымаць неабходныя кансультацыі і метадычную літаратуру для кваліфікаванага назіраньня за выбарамі.

Ну а вертыкальшчыкаў трэба відаць у чарговы раз пашкадаваць. Іхныя незаконныя намеры ўсё часьцей не спрацоўваюць. Пара б ужо задумацца над гэтым.

Ну а некаторыя Наваполацкія чыноўнікі ці то па загаду зьверху, ці то з "уласнае ініцыятывы" вырашылі, так бы мовіць, падгуляць бутафорнаму фарсу пад назовам выбары. Супрацоўнікі бібліятэкі імя У.Маякоўскага вырашылі правесьці дэбаты кандыдадаў у дэпутаты. Зараз адбываюцца перамовы з прэтэндэнтамі на мандаты дэпутатаў. Мерапрыемства мяркуецца правесьці недзе на пачатку кастрычніка. Прынамсі будзе цікава паназіраць, як кандыдаты ў рудэментарны орган будуць пераконваць, што яны дастойныя заняць месцы ў ім. Лепш бы гэтыя кандыдаты азнаёміліся з сучаснай заканадаўчай базай, што зараз рэглямэнтуюць працу дэпутацкага корпусу прэзідэнцкай палаткі. Тады б ім мусіць стала зразумелая бессэнсоўнасьць і іх дэбатаў, і іх удзелу ў фарсе пад назовам выбары.



*Віцебск: моладзь на выбары не пойдзе!*

# РЕШЕНИЕ

**рабочей группы Ассамблеи демократических неправительственных организаций Витебской области**

**1. Об утверждении Положения о конкурсе малых грантов.**

Решили:

-утвердить Положение о конкурсе малых грантов;

-утвердить график конкурса.

**2. О проведении конференции областной Ассамблеи демократических неправительственных организаций Витебской области.**

Решили:

-провести конференцию областной Ассамблеи демократических неправительственных организаций в два этапа. Первый этап – региональные конференции в четырех регионах: Глубокском, Полоцком, Оршанском, Витебском. Второй этап – областная конференция делегатов в Витебске;

-утвердить график проведения региональных и областной конференций:

Глубокое – 22.10.
Полоцк – 29.10.
Орша –28.10.
Витебск – 4.11.
Витебск (областная) – 12.11. (план)

-утвердить квоту делегатов на областную конференцию от районов и городов:

до 5 организаций – 1 человек,
до 10 организаций – 2 человека,
до 15 организаций – 3 человека.

## Моладзь на вырабы не пайдзе!

У Віцебску у раёне школы № 40 байцамі АМАПу (каля 15 чалавек з аўтаматамі) затрыманы валанцёр Маладога Фронту Яніс Чучман у час расклейкі улёткі "Моладзь на вырабы не пайдзе". Затрыманы быў дастаўлены у Першамайскі РАУС г.Віцебска, куды адразу прыехалі прадстаўнікі праваабарончага цэнтру "Вясна" і БНФ. На пытаньне аб прычыне затрыманьня дзяжурны міліцыянт прапаршчык А.Варапаеў адказаў, што па падазрэньні ў здзяйсьненньні нейкіх проціпраўных дзеяньняў і для высьвятленьня асобы (Яніс ня меў пры сябе пашпарту).

Пасьля складаньня пратаколу аб адміністрацыйным правапарушэньні (было выстаўлена абвінавачаньне ў парушэньні арт.167 /1 – публічныя заклікі да байкатаваньня выбараў) затрыманы фронтавец быў зьмешчаны ў клетку і чакаў перамяшчэньня ў залу суда. Хадайніцтва аб прадстаўленьні юрыдычнай дапамогі з моманту затрыманьня міліцыянтам было груба адхіленае.

# З Оршы

*Візіт месяца*

## Да нас прыязджаў Лука

21 жніўня Оршу ашчаслівіў сваім візітам Аляксандр Лукашэнка.

Візіт быў з нагоды 100-годдзя станкабудаўнічага завода "Красный борец", дзе Лукашэнка наведаў цэхі завода, зрабіў запіс у кнігу ганаровых гасцей і выступіў на ўрачыстым пасяджэнні. Аб візіце ў горадзе даведаліся недзе за тыдзень, але спрацавалі апаратыўна, так што ўсё праходзіла ў традыцыйнай атмасферы савецкай паказухі, знаёмай нам яшчэ з часоў застою. Вуліцу Энгельса, каторая даўно ўжо не адрознівалася сваёй ідэальнай праезнай часткай, разам з аўтастаянкай ля моста тэрмінова заасфальтавалі. Праўда, толькі да самога завода. Вуліцу Леніна, па каторай таксама меў праехаць грамадзянін Лукашэнка, прывялі ў належны стан.

У сам дзень візіту па ўсяму маршруту следвання Лукашэнкі стаяла і раз'язджала на рознага роду машынах беспрэцэдэнтная колькасць міліцыі. Па самім вуліцам Леніна і Энгельса праз кожную сотню метраў па абодвум бакам стаялі міліцыянты з рацыямі, а па праезжай частцы курсавалі туды-назад легкавушкі з міліцыяй. Апрача таго па ўсяму маршруту следвання Лукашэнкі па дварах і бакавых вуліцах шчыльна стаялі спецмашыны для перавозкі арыштаваных. На некаторых з іх (гэта ўжо нешта новае!) былі нанесены свежыя надпісы ХЛЕБ. На заводзе ў гэты дзень назіралася прысутнасць небывалай колькасці людзей у цывільным, каторыя пільна сачылі літаральна за ўсім і кожным. Уся абстаноўка была нервозная і дужа нагадвала ўвядзенне ваеннага становішча. Машэрава так не ахоўвалі.

*Выбары*

## У камісісях толькі нашы

Гарвыканкам зацвердзіў склад 60 участковых камісій дзвюх выбарчых акруг, на каторыя падзелены горад – 26-й Аршанскай і 27-й Аршанскай-Дняпроўскай.

Як і чакалася, практычна ўсе участковыя камісіі спрэс "аснашчаны" вылучэнцамі апарату ўлады. Аніводны апазіцыянер нават на нізавым, участковым узроўні, туды не пранік. З палітычных партый, якія згадзіліся гуляць з "вертыкаллю" ў выбары (ПКБ, ЛДПБ ды некаторыя іншыя), у нас ніводная не вылучыла сваіх людзей у склад камісій. А з грамадскіх арганізацый сваіх людзей вылучылі адны прыдворныя – ветэранская арганізацыя, БПСМ, арганізацыя працоўных жанчын ды яшчэ такая спецыфічная, як таварыства інвалідаў. Відаць, на бязрыб'і і інвалід – рыба.

Аб палітычным бязрыб'і сведчыць і партыйная прыналежнасць зарэгістраваных кандыдатаў. З 11 кандыдатаў у дэпутаты па 26-й Аршанскай і 8 па 27-й Аршанскай-Дняпроўскай выбарчых акругах толькі чацьвёра маюць палітычную прапіску: 2 прадстаўнікі ПКБ (па адным у кожнай акрузе) і 1 кандыдат ад ЛДПБ. Плюс адзін прадстаўнік такой экзатычнай партыі, як Партыя працы і справядлівасці; гэта вядомы канькабежац Ігар Жалязоўскі, спушчаны аршанцам паводле разнарадкі як зямляк прама са сталіцы. Што лішні раз сведчыць аб яўным палітычным бязрыб'і маючых адбыцца выбараў і сутаргавых захадах "вертыкалі" хоць неяк разбавіць гэтае бязрыб'е. Нават такімі рэдкімі рыбінамі, як Ігар Жалязоўскі, каторы да пошняга часу не вызначаўся сваёй палітычнай заангажаванасцю.

*Соцыум*

## Спецкамісіі кантралююць спецзарплату

Паводле распараджэння грамадзяніна Лукашэнкі створаны грозныя камісіі па праверцы выплаты зарплаты, каторую паводле яшчэ аднаго ягонага распараджэння павінны выплаціць усім аж да ліпеня ўключна. Камісіі павінны прымусіць кіраўнікоў выплаціць усім патэнцыйным выбаршчыкам заробкаў да 5 кастрычніка, а інакш будуць зроблены самыя сур'ёзныя кадравыя аргвысновы. Бо каню зразу-мела, хто ж галодны пойдзе галаса-ваць? Так што пытанне з сацыяльнага дужа лёгка ператвараецца ў палітыч-нае, а пытанне са спецзарплатай – у першачарговае. Гэта потым можна зноў не плаціць людзям па паўгода, а пакуль...

А пакуль у склад спецкамісій (надзвычайных?) уваходзяць прадстаўнікі інспекцыі працы, падатковай інспекцыі й нават КГБ. Ну што там казаць – дзяржаўная задача! Пагроза звальнення пакуль што яшчэ спрацавала, зарплату выплацілі. На некаторых прадпрыемствах прадалі нават частку маёмасці, каб разлічыцца з людзьмі, калгасы атрымалі грошы ў лік будучага ўраджаю, фірме "Лёс" дапамагло міністэрства сувязі... А вось інструментальнаму заводу ніхто не дапамагаў. Але ўважаючы і без таго выбуховую сітуацыю на гэтым прадпрыемстве, "вертыкаль" прагнулася: на выплату заробку завадчанам за травень-чэрвень-ліпень была атрымана пазыка банка пад паручальніцтва аж аблвыканкама. Во як баяцца гневу... Вось толькі пытанне: каго?

# З Верхнядзвінска

### ВІЗІТ

На мінулым тыдні Верхнядзвінск зноў наведаў замежны госць. Гэтым разам ён прыехаў з Нарвегіі. Мэтай візіту кіраўніка нарвежскай дабрачыннай арганізацыі Улы Сімана Оствайта стала сустрэча з прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый Верхнядзвіншчыны. Падчас гэтай сустрэчы былі абмеркаваны планы далейшага супрацоўніцтва дзеля аказання дабрачыннай дапамогі нашаму раёну.

### ДАПАМОГА

Верхнядзвінск у чарговы раз наведала дэлегацыя з Галандыі. Прадстаўнікі фонда "Кіндэрхульп" прыехалі, каб забраць 30 выхаванцаў Асвейскай і Верхнядзвінскай школ-інтэрнатаў на два месяцы на аздараўленне ў Галандыю. Сярод гасцей былі кіраўнік міжнароднай грамадскай арганізацыі "Дапамажы людзям" Святлана Норка, жонка кіраўніка галандскага фонду Мірыям Коопс, яго памочнік Вім Бар, а таксама прадстаўнікі рабочай групы гэтай арганізацыі. Госці азнаёміліся на месцы з дзейнасцю грамадскіх арганізацый раёна па дабрачыннай дапамозе насельніцтву. Адбылася сустрэча і з старшынём райвыканкаму І.М.Палачанінам і яго першым намеснікам А.В. Марэйкам. Размова ішла аб магчымасці рэалізацыі на тэрыторыі раёна сумеснага сельскагаспадарчага праекту. У гэтым праекце мяркуецца ўдзел адной з гаспадарак раёна з умовай накіравання часткі атрыманага ад рэалізацыі праекту прыбытку на фінансавую падтрымку школ-інтэрнатаў раёна. Плануецца, што напрыканцы верасня галандцы зноў наведаюць раён, каб канчаткова вызначыцца накот канкрэтных партнёраў з нашага боку.

### ВАНДРОЎКІ

Змястоўную вандроўку здзейснілі сябры народнага Клуба цікавых сустрэч. На гэты раз маршрут пралёг у вёску Мосар – на Глыбоччыне, якая славіцца сваім еўрапейскім выглядам, які яна набыла дзякуючы мясцоваму касцёлу. Па шляху няўрымслівыя шукальнікі цікавага наведалі Мёрскі касцёл з яго помнікам ненароджанаму дзіцяці, пабывалі з экскурсіяй у музеі Язэпа Драздовіча ў Германавічах.

## З Гарадка

Пабачыў свет першы нумар незалежнай газеты Шумілiншчыны "Сьвітанак". Заснавальнікам і рэдактарам газеты выступіў Сяргей Салодкін, а набор і вёрстку газеты зрабіў Гарадоцкі рэсурсны цэнтр "Гасцінец". Нумар прысвечаны выбарчай кампаніі: "Чаму я не пайду на выбары" і г.д. Чытачы сустрэнуць матэрыял, прысвечаны жыццю настаўнікаў, пазнаёмяцца з вытрамкамі з кнігі Уладзіміра Арлова "Адкуль наш род", а таксама сустрэнуць нататку пра адсутнасць вады ў в. Амбросавічы. Дарэчы, гэта ўжо другое выданне на Віцебшчыне, якое выдаецца на вёсцы.

**Распачаў сваю дзейнасць народны міні-універсітэт імя Ангела Багдановіча на Гарадоччыне. Асноўнай мэтай міні-універсітэта з'яўляецца прапаганда ідэй адкрытага дэмакратычнага грамадства сярод сельскга насельніцтва раёна, а таксама пашырэнне сеткі грамадскіх аб'яднанняў на Гарадоччыне. Заняткі прайшлі ў в. Стадолішча, Пальмінка, Даўгаполле, Вайханы, Езярышча і іншых месцах. На першых занятках слухачы інтэрактыўным спосабам вывучалі пытанне "Асноўныя рысы дэмакратычнай дзяржавы і дэмакратычнага грамадства", атрымлівалі адказы на хвалюючыя пытанні сучаснага жыцця на Беларусі.**

Рэсурсным цэнтрам "Гасцінец" праведзены семінар для зацікаўленых асоб па арганізацыі недзяржаўнай выдавецкай дзейнасці. Удзельнікі семінара мелі магчымасць пазнаёміцца з асновамі фандрэзінга, распрацаваць план выдавецкай дзейнасці, атрымаць інфармацыю аб спонсарах выдавецкай дзейнасці.

**На паседжанні Гарадоцкай рады адбылося абмеркаванне праекта плана падрыхтоўкі да святкавання 150-годдзя з дня напісання славутай паэмы "Тарас на Парнасе", аўтарам якой лічыцца Канстанцін Вераніцын. План разлічаны на пяць год – да 17 красавіка 2005 года і ўтрымлівае разнастайныя мерапрыемствы: пераклад паэмы на еўрапейскія мовы, адкрыццё мемарыяльных знакаў, правядзенне чытанняў, арганізацыю дзейнасці грамадскай Акадэміі тарасазнаўства і г. д. Сябры Рады прапанавалі звярнуцца да кіраўніцтва ВДУ (прарэктар А.М. Дарафеяў ) за падтрымкай па арганізацыі працы аргкамітэта па ўшанаванню славутай паэмы. І безумоўна ўсю працу плануецца весці сумесна з вядучым тарасазнаўцам краіны – Генаддзем Кісялёвым.**

На апошнім паседжанні Каардынацыйнай рады па назіранню адзначана, што выбарчую агітацыю распачаў спадар Лектараў, якога падтрымлівае выканаўчая ўлада. Спадар Лектараў, які ў 1996 годзе не выканаў волю народа і перайшоў у Палату без рашэння Вярхоўнага Савета, зараз, смяніўшы выбарчую акругу, зноў імкнецца да цёплага месца. Месца цёплае, бо гарантуе зарплату міністра! Раённыя кіраўнікі кандыдата ад улады актыўна падтрымліваюць, арганізуючы сустрэчы ў рабочы час на рабочых месцах. Але калі раней на сустрачах з кандыдатамі было шмат выбаршчыкаў і яны праходзілі пасля працы, то зараз такія сустрэчы збіраюць два-тры дзесяткі грамадзян, якія ўжо зусім не вераць чарговым абяцанкам кандыдата.

Выбаршчыкам трэба рабіць свядомы выбар, бо дэпутат кішэннай палаты для выбаршчыкаў амаль нічога вырашыць не можа, сродкаў на дзейнасць ПП будзе марнавацца шмат. Адзін выхад – не ўдзельнічаць у выбарчым фарсе.

## З Паставаў

### У нашым палку прыбыло

Яшчэ на два незалежных выданні стала больш на Пастаўшчыне. Акрамя "Сумежжа", "Крэсаў", "Краязнаўцы Паазер"я", "Сяброўкі" у гэтым месяцы пабачылі свет першыя нумары двух газетаў. Гэта прававая адукацыйная газета "Прававое акно", якая ставіць сваёй мэтай юрыдычную адукацыю насельніцтва і культурніцка-экалагічная газета "Шыпшына", якая будзе займацца экалагічнай адукацыяй і паднімаць пытанні культуры, на старонках якой будуць друкавацца літаратурныя навінкі мясцовых аўтараў, публіцыстыка, літаратурная крытыка.

Дарэчы, трэба зазначыць, што ўсе вышэйпералічаныя выданні – рэгіянальныя. Так, што ёсць чым нам ганарыцца, бо ні ўводным раёне няма столькі таленавітых і кваліфікаваных энтузіястаў.

### Галасуй – не галасуй, усё роўна прайграеш!

Будзем шчырымі: па меры набліжэння да 15 кастрычніка насельніцтва Пастаўшчыны стала цікавіцца выбарамі ў так званую Палату прадстаўнікоў. У нас пытаюцца пры сустрэчах у горадзе і на вёсцы, што гэта будзе за галасаванне, каго трэба абіраць і за якіх прэтэндэнтаў найлепей аддаць свой голас. Адкажам адразу і ўсім. Вас будуць прасіць, абавязваць, або проста намякаць пра магчымыя непрыемнасці, калі чалавек раптам адмовіцца ўдзельнічаць у гэтым мерапрыемстве.

Пасля таго, як стала зразумела, што да нас не прыедуць замежныя наглядальнікі, а толькі групка тэхнічнай місіі, правячы рэжым адкінуў у бок апошнія рэшткі сумлення. Ужо на этапе рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты большасць самых відных, разумных і дэмакратычна настроеных людзей былі нахабна выкраслены ад далейшай барацьбы. Асталіся, як і па нашай Пастаўскай акрузе №30, толькі свае. Грамадзяне, якія падтрымліваюць уладу Лукашэнкі і яго памагатых.

Цяпер для рэжыму ўсё роўна, хто ў нас пераможа – Камай ці Розынка. Ад гэтага нічога не зменіцца. Ісці ці не ісці на ўчастак – урэшце рэшт гэта справа кожнага. Разумеючы, у якой краіне мы жывём, многім спакайней будзе далей існаваць, калі яны адзначацца ў спісах для галасавання. Але ў кабінах вы застанецеся адны. І ўжо ніхто вам не перашкодзіць у бюлетэні прагаласаваць супраць усіх. Гэтым вы не толькі прымусіце нязграбную ўладу лічыцца з народам, перастаць лічыць яго пакорліва-паслухмяным статкам. Інакш і праз год перад выбарамі прэзідэнта аб нас яшчэ не так будуць выціраць ногі, дурыць і падманваць. Зрэшты, падрабязна і дэталёва да тэмы выбараў "Сумежжа" вернецца ў наступным нумары газеты. Найлепей цяпер усім паспяхова завяршыць уборку ўраджаю і падрыхтавацца да зімовых халадоў.

### Жанчыны гуртуюцца

Яшчэ адна раённая структура недзяржаўнай грамадскай арганізацыі пачала сваю дзейнасць на тэрыторыі раёна. Створана раённае аддзяленне ГА "Аб"яднання працоўных жанчын", якое налічвае тры пярвічныя суполкі і рыхтуецца стаць на ўлік у райвыканкаме. Плануецца стварыць грамадскую прыёмную, у якой будуць прымаць жанчын псіхолаг і юрыст.

Рэдакцыйная калегія: В. Алінін, Х.С. Жэлапаў
Камп'ютэрны дызайн і вёрстка: В. Алінін
Адрас рэдакцыі: 210015 Віцебск, пр-т Чарняхоўскага, 12-17, тэл/факс: (0212) 22-49-25
Распаўсюджваецца бясплатна
Выдавец: Віцебскае аддзяленне ГА «Фонд імя Л. Сапегі»
Наклад 160 паасобнікаў
Для унутранага карыстання